


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (1126) ГОД XXII БЕЛАСТОК 25 ВЕРАСНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Ці хочаце ўбачыць, як чарада барадатых ды гарбатых зуброў абступіла абарог ды цягае з яго сена? Гаспадар, звочыўшы няпрошаных гасцей, крычыць ды стукоча-грукоча, ходзячы па хаце, але на свой панадворак высунуць нос пабойваецца. Убіўшыся ў цёмны вугал буды, лемантуе сабака, аднак таксама выскачыць да зяўроў не стае ў яго духу. А тым часам пушчанскія волаты ядуць духмяны мурог ды або хвастамі памахваюць...

Займальны малюнак, праўда? Калі хочаце яго ўбачыць уласнымі вачыма, раю вам наведаць Бярнацкі Мост, што знаходзіцца ў сямі кіламетрах на захад ад Нараўкі, пры гасцінцы з Нараўкі ў Нараў. Невялікая гэтая вёсачка ўціснулася паміж Белавежскай і Лядскай пушчамі ды прысела на правым беразе рэчкі Яблонаўкі. З поўначы, усходу і захаду тут узвышаюцца стромкія лясныя масівы, а толькі з паўднёвага захаду прасціраюцца палеткі бернатаўчан.

Здаўна аблюбаваў гэтае маляўнічае месца чалавек, а пачатак сялібе даў, відаць, асочнік, абавязкам якога было ахоўваць гэтую ўскраіну Белавежскай пушчы ад пасяганняў на драўніну і

## Бярнацкі Мост

зяўроў у ёй з боку навакольных сялян. Мясціна была надта заманлівая: знаходзілася на беразе рэчкі побач з рухлівым гасцінцам, што злучаў падляшскія гарады Драгічын, Мельнік, Бельск, Нарву з гарадамі ў Вялікім княстве Літоўскім — Свіслаччу, Слонімам, Навагрудкам і іншымі. Таму ў хуткім часе яна апынулася ў руках нейкага шляхціча, які разгарнуў тут значную гаспадарчую дзейнасць. Заснаваў пры гасцінцы карчму і здаў яе ў арэнду яўрэю, уздоўж рэчкі паставіў некалькі млыноў і фолюш, падбудаваў ладны фальварак. Паўстала ўтульнае шляхецкае гняздзечка.

Усё было ў ім цудоўна і рамантычна, як у аповесцях Марыі Радзевіч. Але вось цар выдаў маніфест аб знясенні прыгоніцтва, а неўзабаве ўспыхнула Студзеньскае паўстанне. Вадаварот гэтых падзей захапіў нейкім чынам і ўладальнікаў фальварачка Бярнацкі Мост. Што з імі сталася — невядома.

(Праця на стар. 4)



*У першых днях верасня ў Гайнаўцы, на задворках Дома настаўніка, адкрылася выстаўка работ майстроў разьбы па дрэве. Выстаўка з'явілася падсумаваннем мастацкага пленеру разбяроў. На здымку: работы А. Сакалоўскага, В. Твароўскага і А. Бешчада.* Фота Я. Чэрнякевіч

## Ці будзе тэхнікум у Крынках?

Праблемы сельскагаспадарчай асветы ў гміне Крынкі ніколі не былі такімі вострымі, як у апошні час. Па-першае, у выніку адыходу з сельскай гаспадаркі ў гарады вялікай колькасці маладых сялян і асабліва вясковай моладзі, наступіла хуткае пастарэнне тутэйшай вёскі. На пакінутай або здадзенай за пенсію зямлі паўстаў на абшары каля 10 тысяч гектараў зямлі вялікі ПГР, які ў будучым будзе спецыялізавацца пераважна ў гадоўлі авечак. Планецца пабудаваць у ім вялікія фермы па 3 тысячы матак у кожнай, значыць, разам будзе гадавацца каля 20 тысяч штук авечак. Апрача гэтага прадбачваецца ўзвесці вялікую свінаферму і інасоб атрымала пачатковую адукацыю і званне кваліфікаванага гаспадара, на трэцім, у Крынках, займаецца 12 асоб. Есць яшчэ ў гміне каля 60 асоб ва ўзросце да 25 год, якія маглі б наведваць студыі. Але жывуць яны ў 28 сялэцтвах гміны! Вельмі цяжка сабраць іх на заняткі ў адным ці двух месцах. Аднак мы зробім усё, каб адкрыць студыі ў Крушынянах і Крынках. Вядзем мы таксама курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР). Надаўна закончыўся такі курс у Юраўлянах, працягваецца ў Азяранах, Паўднёвым Востраве, плануем яшчэ арганізаваць у Кундзічах, Азерскіх і Крынках. У гэтым годзе кваліфікацыйныя курсы закончыла ў нас 63 асобы. Гэтую форму таксама будзем

шыя сельскагаспадарчыя аб'екты. Для гэтага камбіната збожжа, мяса, воўны і скуры на модныя кажушкі праз два-тры гады патрэбны будуць сотні працаўнікоў з грунтоўнай сельскагаспадарчай адукацыяй. Па-другое, хоць колькасць маладых ці ў сярэднім узросце сялян у гміне вельмі зменшылася, але ж тутэйшыя вёскі ды і само мястэчка Крынкі цалкам не апусцелі! Есць жа немала маладых людзей, што ўжо працуюць на ўласнай гаспадарцы або будуць на ёй працаваць. Гэтым людзям таксама патрэбна грунтоўная сельскагаспадарчая адукацыя, бо, вядома, без ведаў сучаснаю гаспадарку як належыцца не павядзеш.

Усё гэта абавязвае кіруючых працаўнікоў у гмінным упраўленні і ПГР-ы ўжо цяпер заняцца стварэннем працаздольнай сістэмы сельскагаспадарчай адукацыі і канкрэтнай праграмы падрыхтоўкі кадраў для сельскай гаспадаркі ва ўсёй гміне на бліжэйшыя 5 ці нават 10 год.

На жаль, і ПГР і гміна кожны сабе рэпку скрабе і ўпасобку імкнецца вырашаць гэту праблему.

— Пашырэнне сельскагаспадарчых ведаў з'яўляецца адной з асноўных дзялянак нашай працы — сцвярджае кіраўнік гміннай сельскагаспадарчай службы **Юзэф Варановіч**. — Дагэтуль мы арганізавалі 3 курсы падставовай сельскагаспадарчай студыі. У Гуранах і Крынках заняткі ўжо закончаны і 28 прадаўжаць, хочам арганізаваць такія курсы, між іншым, у передавой вёсцы нашай гміны — Шацілах. Але я лічу, што гэтай адукацыі, як на няспынна ўзрастаючыя патрэбы нашай вёскі і паўстаўшага ПГР-у, замала. Нам патрэбны вячэрні сельскагаспадарчы тэхнікум. Ён быў бы заканамерным прадаўжэннем працэсу паглыблення і пашырэння сельскагаспадарчых ведаў, якія цяперашнія і будучыя працаўнікі ПГР-у, ГС-у і індывідуальныя гаспадары атрымалі ўжо на розных курсах. Хоць бы некалькі дзесяткаў выпускнікоў такога тэхнікума — гэта быў бы жыццядайны ўкол для ўсёй сельскай гаспадаркі нашай гміны. Але ці ён напэўна паўстане — не ведаю...

— Справы падрыхтоўкі кадраў для нашай гаспадаркі мы не занядбоўваем, — заўважае адказная за кадры ў ПГР-ы **Яніна Шчэсюль**. — Здабываем спецыялістаў, дзе толькі можам. Маем ужо 5 падпісаных уступных пагадненняў са студэнтамі вышэйшых школ Беластока, Ольштына і Варшавы. Сярэднія кадры рыхтуем усюды, дзе толькі ўдасца. Адзін наш працаўнік займаецца ў тэхнікуме для перадавых сельскагаспадарчых рабочых у Алецку, адзін у будаўнічым тэхнікуме ў Беластоку, двое ў тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі, трох мы выслалі на курсы гадоўлі авечак, сем чалавек у

(Праця на стар. 4)

Ленінград!

Хто з нас не марыў пабываць у гэтым легендарным горадзе? Колькі цудоўных слоў, песень і вершаў прысвечана гэтай Венецыі Поўначы, тым каменным берагам, дугам мастоў і ажурных мосцікаў?

Ужо ў сваім заранні горад над Нявой прыцягваў да сябе знамянітасцяў Еўропы: мастакоў, архітэктараў, скульптараў. Многія з іх прысвяцілі гэтаму гораду ўсё сваё жыццё. Вось, напрыклад, архітэктар Манферан, француз, аўтар і будаўнік слаўнага Ісакіеўскага сабора. Узнёсшы гэтую несамавітую будоўлю, Манферан так і застаўся ў Пецярбургу. Ён пабудаваў тут нямала будынкаў, але Ісакіеўскі сабор да канца жыцця лічыў найбольшым сваім дасягненнем і нават завяшчаў пахаваць сябе тут.

Дарэчы, у час пабудовы Ісакіеўскага сабора, тут жа побач, на Сенацкай плошчы, будаўнікі — прыгонныя сяляне былі сведкамі паўстання дзекабрыстаў. Калі царская паліцыя пачала разганяць паўстанцаў, з-за плоту будовы на паліцыю пасыпаўся град каменняў.

На гэтай жа плошчы, цяпер плошчы Дзекабрыстаў, стаіць усім вядомы сімвал Ленінграда — помнік „медного всадника". Помнік, які прадстаўляе Пятра I на ўздыбленым кані, быў пастаўлены па загаду Кацярыны II у гонар заснавальніка горада. У час ленінградскай блакады, каб ўратаваць помнік ад бомб, яго абклалі мяшкамі з пяском і абліцавалі дошкамі. І сёння, як і ў часы Пушкіна, стаіць „медный всадник" над Нявой, трохі зеленаваты ад снедзі, але па-ранейшаму ўзнёслы і магутны. Каля помніка заўсёды шмат турыстаў. Сюды ж лічаць сваім абавязкам прыйсці маладажоны ў дзень іх шлюбу. Маладуха — у белі, побач — малады і дружкі. Усе з кветкамі, урачыстыя і вясёлыя, як сама маладосць.

Другім месцам, якое наведваюць маладажоны, з'яўляецца стрэлка Васільеўскага вострава, якая клінам уразаецца ў Няву і стварае вачам амаль кругавую панараму: злева, як на далоні, залачо-

(Праця на стар. 4)




**У Прэзідыуме ГП БГКТ ● Ламбардская даліна на Прапалаўшчыне ● Лялькі для дарослых ● Літаратурная старонка ● Статыстыка дзядзькі Полюха ● Як зверы ● Вестці з Беластока, Васількова, Гайнаўкі, Старога Лыўкова, Збуча, Бельска, Белавежы, Нараўкі ● Мода для мужчын ● Калі сніцца вяселле ● Крамольны гумар ● Песня „Jestem tylko dziewczyną".**



*Ленінград. Адміралцейскі шпіль.*

# ШТО НОВАГА?

## „Уцечка розумаў"

У сярэднім каля тысячы ўрачоў выязджаюць штогод з Індыі ў развітыя капіталістычныя краіны, паведаміла індыйскае агульнанацыянальнае інфармацыйнае агенцтва Самачар. Гэта — амаль дзесяць працэнтаў ад агульнай колькасці выпускнікоў усіх медыцынскіх навучальных устаноў краіны.

Масавую эміграцыю вучоных, дыпламаваных спецыялістаў у розных галінах навукі і тэхнікі з краін, якія сталі на шлях развіцця, у прамыслова-развітыя дзяржавы капіталістычнага свету сучасныя сацыёлагі называюць „уцечкай розумаў". Прычыны яе зразумець няцяжка. Заправілам вялікага бізнесу больш выгадна „купляць" вопытных урачоў, інжынераў і вучоных на баку, чым затрачваць вялікія сродкі на іх падрыхтоўку ў сябе дома. Ды і плаціць падрыхтаваным „чужакам" значна менш. Куды, маўляў, яны цяпер падзенуцца? Бо іх адзіным багажом, як адзначала французская газета „Монд", з'яўляюцца веды.

Разам з тым — і гэта ўспрымаецца як парадокс — уцёкі спецыялістаў садзейнічаюць далейшаму росту переваі развітых краін Захаду ў галіне навукі і тэхнікі, вядуць да адставання краін, якія сталі на шлях развіцця, рэзка зніжаюць іх эканамічны патэнцыял і міжнародны прэстыж.

І вось процьма зазывал рыскае па краінах і кантынентах планеты, асабліва ў Азіі, спакушаючы спецыялістаў усіх профіляў абяцаннямі высокіх заробкаў, тым, што яны будуць мець лабараторыі, кабінеты, аснашчаныя па апошняму слову тэхнікі. І нямала спецыялістаў верыць гэтым абяцанням і кідае свае пакуль яшчэ не вельмі багатыя краіны.

Аднак хутка многія з „уцекачоў", сутыкнуўшыся з чужым ім спосабам жыцця, уволю паспытаўшы сапраўдных, а не рэкламных шчодрасцей і даброт „зямель запаветных", трапіўшы часта ў нераўнапраўнае становішча „каляровых", г.зн. грамадзян другога гатунку, вымушаны вяртацца назад.

Індыйскі друк неаднаразова ставіў пытанне аб „уцечцы розумаў" з краіны, патрабаваў рашуча пакончыць з незаконнай дзейнасцю заакіянскіх вярбоўшчыкаў. І гэта зразумела. Каб паўней уявіць сабе шкоду, якую наносіць ад'езд спецыялістаў з Індыі, дастаткова паглядзець статыстычныя даныя. Інфармацыйнае агенцтва Самачар паведамляе, што ад'езд адных толькі ўрачоў наносіць урон, які вылічваецца сотнямі мільёнаў рупій у год. Агульныя ж страты сапраўды каласальныя — яны дасягаюць некалькіх мільярдаў рупій!

Гэта не можа не тармазіць сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны. Так, цяпер у сельскіх раёнах, дзе пражывае каля 80 працэнтаў усяго насельніцтва, на 10 тысяч жыхароў прыпадае ўсяго адзін урач.

Прагрэсіўная індыйская грамадскасць заклікае ўрад неадкладна распрацаваць і ўкараніць у жыццё шырокую і дзейсную сістэму мерапрыемстваў, накіраваную на ліквідацыю прычын, што выклікаюць „уцечку розумаў".

## Са сметніка — на п'едэстал...

Аднойчы бацькі іспанскага горада Кардовы, капаючыся на сметніку гісторыі, выцягнулі адтуль здань былога каудыльо і рашылі паставіць яе на п'едэстал...

Прасцей кажучы, надумаліся паставіць статую крывавому Франка. Скульптар запрасіў 10 мільёнаў песет. Сума аказалася муніцыпалітэту не па зубах. Тады быў кінуты кліч да народа: маўляў, дамагайцеся, працоўныя людзі, усцягнуць нашага каудыльо на п'едэстал!

Кліч так і павіснуў у паветры. Дурных мала аказалася.

З такой нагоды заходнегерманская газета „Франкфуртэр альгемайне" з усмешкай адзначыла, што адсутнасць манумента Франка дазволіць гораду пазбавіцца дадатковых выдаткаў. У Валенсіі, напрыклад, стаіць скульптура Франка і яе кругласутачна вартуюць, каб простыя людзі не знялі манумент і не выкінулі на сметнік, як выкінулі на сметнік гісторыі і сам арыгінал...





ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ф. ДЗЯРЖЫНСКАГА

# ЖАЛЕЗНЫ ФЕЛІКС

Фелікс Дзяржынскі нарадзіўся 11 верасня 1877 года на хутары Дзяржынава Ашмянскага павету Віленскай губерні, у сям'і польскага дробнапаменага дваранiна. Вялікая сям'я Дзяржынскіх, у якой было восем дзяцей, жыла на заработак бацькі, выкладчыка матэматыкі і фізікі Таганрогскай гімназіі. Феліксу не было і пяці гадоў, калі памёр бацька.

У 1894 годзе, будучы ў 7 класе гімназіі, Фелікс уваходзіць у сацыял-дэмакратычны гурток самаразвіцця. З 1895 года ён — член літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Дзяржынскаму было ўсяго 17 гадоў, калі ён пазнаёміўся з марксісцкай літаратурай.

У пачатку 1897 года 19-гадовага Дзяржынскага пасылаюць у Коўна для арганізацыі партыйнай работы. У Коўне Дзяржынскі пачынае бурную дзейнасць. Ён часта бывае на заводах і фабрыках. Стварае гурткі. Распаўсюджвае нелегальную літаратуру. У ліпені 1897 года ён быў арыштаваны па даносу здрадніка. Гэта быў першы арышт. Дзяржынскаму тады яшчэ не было і 20 гадоў.

Пасля года папярэдняга зняволення Дзяржынскага выслалі ў Налінск Вяцкай губерні. Тут ён працягвае актыўную рэвалюцыйную дзейнасць сярод рабочых тытунёвай фабрыкі, куды паступае працаваць набойшчыкам.

У жніўні 1899 года Дзяржынскі ўцёк са ссылкі. З цяжкасцю дабраўся да Вільні. Родныя, занепакоеныя лёсам Фелікса, угаварвалі яго ў сваіх пісьмах пакінуць рэвалюцыйную дзейнасць і вярнуцца да „нармальнага жыцця". Але атрымалі цвёрдую адмову.

У разгары кіпучай рэвалюцыйнай дзейнасці 23 студзеня 1900 года Дзяржынскі зноў быў арыштаваны на адной з нелегальных сходак рабочых.

Дзяржынскага пасадзілі спачатку ў адзін з самых змрочных засценкаў царскага самадзяржаўя — X павільён Варшаўскай цытадэлі, а затым перавезлі ў Седлецкую турму, дзе ён правёў каля двух гадоў. Турма зусім падтачыла арганізм Дзяржынскага. Ён захварэў на туберкулёз лёгкіх. Хворага, змучанага, яго па прыгавору суда накіроўваюць у пяцігадовую ссылку ў Вілюйск.

У дарозе здароўе Дзяржынскага рэзка пагоршылася. У Верхаленску, куды ён прыбыў з этапам, турэмны фельчар засведчыў, што не можа ісці далей.

І ў Верхаленску Дзяржынскі імкнуўся да актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасці. У чэрвені 1902 года ён перапраўляецца праз Лену і ўцякае. Дзяржынскі перайшоў граніцу і ў жніўні прыбыў у Берлін.

На свабодзе Фелікс Дзяржынскі адразу ж пачынае рэвалюцыйную работу. Па яго ініцыятыве ў Берліне склікаецца канферэнцыя сацыял-дэмакратычнай партыі Польшчы і Літвы. Ён патрабуе актывізаваць яе дзейнасць. Па яго прапанове канферэнцыя прымае рашэнне аб выданні нелегальнага друкаванага органа партыі „Чырвоны сцяг".

У эміграцыі Дзяржынскі вельмі пакутаваў ад адрыву ад непасрэднай работы. Ён увесь час патрабаваў накіраваць яго на падпольную работу.

І дабіўся свайго. Спачатку рабіў кароткатэрміновыя нелегальныя паездкі ў Польшчу, а потым, у сакавіку 1912 года, зусім пераехаў туды.

* * *

Фелікс Дзяржынскі быў адным з кіраўнікоў Кастрычніцкага ўзброенага паўстання. Як член ваенна-рэвалюцыйнага цэнтра па кіраўніцтву паўстаннем ён адказваў за ахову штаба рэвалюцыі — Смольнага інстытута, непасрэдна кіраваў захопам пошты і тэлеграфа.

Дзейнасць Ф. Дзяржынскага пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі была надзвычай шырокая і разнастайная. Член Цэнтральнага Камітэта партыі, член Аргбюро і кандыдат у члены Палітбюро ЦК, член прэзідыума ВЦВК, а затым ЦВК СССР, старшыня ВЧК-АДПУ, народны камісар унутраных спраў, народны камісар шляхоў зносін, Старшыня Вышэйшага Савета Народнай Гаспадаркі — такі няпоўны пералік афіцыйных пасад, якія займаў у партыі і ў дзяржаўным апараце.

...Ішло пасяджэнне Савета Народных Камісараў. Толькі што па дакладу Дзяржынскага была прынята пастанова аб стварэнні ВЧК па барацьбе з контррэвалюцыяй, сабатажам і спекуляцыяй. Калі стала пытанне аб назначэнні старшыні ВЧК, Уладзімір Ільіч сказаў: „Тут патрэбны добры пралетарскі якабінец". Погляды ўсіх прысутных звярнуліся да Дзяржынскага. І не выпадкова. Фелікс Дзяржынскі сваёй адданасцю справе рэвалюцыі, жалезнай воляй, непрымірымасцю да ворагаў народу, як ніхто больш, адпавядаў гэтаму патрабаванню.

Дзяржынскі асабіста ўдзельнічаў у раззбраенні штаба белагвардзейскай арганізацыі „Арол" у Петраградзе, ён сам кіраваў арыштам такіх галаварэзаў, якімі былі важакі анархісцкай „Чорнай гвардыі".

Крок за крокам пад кіраўніцтвам Дзяржынскага быў разматаны буйны шпіёнскі клубок англійскага разведчыка Локарта, амерыканскага генеральнага консула Пула і місія амерыканскага „Чырвонага крыжа", іншыя загаворы амерыканскай, англійскай, французскай разведак.

„Левыя" эсэры накіравалі свайго агента Блюмкіна ў германскае пасольства з даручэннем забіць Мірбаха — германскага пасла ў Маскве. Гэта было зроблена па ўказцы імперыялістаў з мэтай навязаць Савецкай Расіі вайну з Германіяй.

Дзяржынскі знаходзіўся на пасяджэнні з'езду Саветаў у Вялікім тэатры, калі яму далажылі аб забойстве Мірбаха. Ён неадкладна выехаў на месца злачынства. Старанна праверыўшы акалічнасці справы, ён устанавіў, што Блюмкін меў пры сабе фальшывыя дакументы ад імя ВЧК. Хутка разблытаўшы канцы правакацыі, Дзяржынскі накіраваўся ў Трохсвяціцельны завулак, дзе быў размешчаны ЦК „левых" эсэраў. Мяцежнікі сканцэнтравалі тут двухтысячны атрад з абманутых эсэрамі байцоў ВЧК. На чале атрада знаходзіўся „левы" эсэр Папоў.

Дзяржынскі без аховы прыбыў у размяшчэнне атрада мяцежнікаў і звярнуўся да іх з заклікам арыштаваць важакоў загавору. Байцы заваганіся, але ў гэты час у пакой увайшоў адзін з членаў ЦК „левых" эсэраў і патрабаваў у Дзяржынскага рэвальвер.

„Ці дазволіце вы, — звярнуўся Дзяржынскі да байцоў, — каб нейкі пан раззброіў мяне, старшыню ЧК?"

Радавыя ўдзельнікі загавору не маглі глядзець Дзяржынскаму ў вочы. Але тут умяшаліся завадатаі мецяжу. Яны сілай абяззброілі Дзяржынскага.

Фелікс Дзяржынскі, змераўшы Папова пагардлівым позіркам, сказаў: „Дайце мне ваш рэвальвер сюды, я вас застрэлю, як нягодніка!"

Авантурыст, збянтэжыўшыся, паспяшаўся рэціравацца.

„Вы баязлівец, — крыкнуў Дзяржынскі, — агідны баязлівец!"

Мяцежнікі аб'явілі Дзяржынскаму, што пакідаюць яго заложнікам за Спірыдонаву, члена ЦК „левых" эсэраў, якая адправілася на з'езд Саветаў.

Аднак планы „левых" эсэраў праваліліся. Неўзабаве мяцеж быў падаўлены.

**І. Кананенка**

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 24.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Hod. zwierz. sem. III. 7.00 Mech. rol. 7.30 Ile gwiazd na niebie — fab. film. NRD. 9.00 Dla kl. VIII: Nauka o czł. 10.00 Dla kl. VII. Zool. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. sem. I. 13.25 Hod. zwierz. 14.10 Red. szk. zap. 14.15 Pr. dnia. 14.20 Radzimy rol. 14.30 Obiektyw. 14.50 Dziennik. 15.00 Z kamerą wśród zwierz. 15.30 Dla dzieci. 16.00 Puszcza — film dok. 16.40 Opowieści rep. 17.10 Dworzec Białoruski — fab. film ZSRR. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Marylin Monroe. Jak poślubić milionera. 22.20 Przeboje wielkiego ekranu. 23.15 Dziennik. 23.30 Nic tylko noc — fab. ang.

**Niedziela — 25.IX.** 7.00 Tech. Rol. Upr. rośl. sem. I. 7.30 Hod. zwierz. sem. III. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Samochody i ludzie — dok. film fr. 11.40 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Tylko w Niedzielę.

**Poniedziałek — 26.IX.** 12.45 RTV szk. śred. J. pol. 26. 15.20 NURT — filoz. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw 16.20 Dziennik. 16.30 Stare centrum Rzeszowa. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Stawka większa niż życie — odc. IV. 19.00 Dobranoc 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV na świecie. Tudor Musatescu: Titanic walc. 22.15 Camerata. 22.45 Dziennik. 23.00 Sport.

**Wtorek — 27.IX.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. 26. 7.00 Fiz. 21. 8.30 Drogi miłości — dramat obycz. bułg. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 12.00 Dla kl. IV lic. J. pol. 12.55 Pr. dla szk. śred. Rodzina współ. 13.45 RTV szk. śred. J. pol. 4. 14.30 Chem. 4. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motor. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.20 W Starym Kinie. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Z życia wzięte — serial CSRS. 21.25 Świat i Polska. 22.00 Noce w ogrodach Hiszpanii. 22.30 Dziennik.

**Środa — 28.IX.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. 4. 7.00 Chem. 9.00 Z życia wzięte — serial CSRS. 10.00 Dla kl. VII. Fiz. 11.05 Hist. 12.00 Dla kl. VII—VIII. Wych. plast. 12.45 RTV szk. śred. Mat. 34. 13.25 Biolog. . 27. 15.20 NURT (naucz. począt.) 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto pyta nie błądzi. 17.00 Dla dzieci. 17.25 Los. małego lot. 17.40 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Zbuntowany statek jej królewskiej mości — fab. film ang. 22.10 X Y Z cz. I. 22.40 Dziennik. 22.55 X Y Z cz. II.

**Czwartek — 29.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Mat. 34. 7.00 Biolog. 27. 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Brama morska — dramat obycz. ZSRR. 12.45 RTV szk. śred. Mat. 3. 13.25 Fiz. 1. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Waga. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Reportaż wojsk. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 W sieci — fab. film USA. 22.00 Pegaz. 22.45 Dziennik. 23.00 Sport.

**Piątek — 30.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Mat. 3. 7.00 Fiz. 1. 7.50 Tysiące słońc — dramat obycz. NRD. 9.00 Dla kl. III Sami gospodarujemy. 11.05 Dla kl. VII. Wych. ob. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 27. 13.25 Hod. zwierz. 26. 15.20 NURT (pedag.). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stad. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Radar. 17.45 Poradnik zmotor. turysty. 17.55 Cienie zanikają w południe — odc. V ser. ZSRR. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 A jeśli będzie jesień — fab. film TP. 21.25 Sygnały. 22.00 Teatr Małych Form. R. Harwood „Goście". 22.50 Dziennik.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 23 IX** — 9.15 Film fab. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Film. fab. 21.40 Program estradowy.

**Sobota 24 IX** — 10.00 Film fab. 12.35 Film fab. 15.30 W świecie zwierząt. 17.00 P. nożna. CSKA — Dynamo (Kijów). 19.20 Pr. muz. 20.30 Film fab. 21.40 Pr. rozrywkowy.

**Niedziela 25 IX** — 9.00 Film fab. 11.30 Film fab. 14.05 Koncert życzeń. 14.55 Panorama międzynar. 16.25 Film fab. 17.30 Piosenka — 77. 18.00 Klub filmowy. 19.30 Panorama filmowa. 20.45 Sport. 21.15 Koncert.

# КІНО

**Białowieża** Barwy ochronne — pol. 27—28.IX. Oddział — USA 29—30.IX.

**Bielsk Podlaski** Czy Lucyna to dziewczyna — pol. 27—28.IX.

**Czeremcha** Drapieżca — ang. 27—28.IX.

**Kleszczele** Życie dla miłości — jug. 27—28.IX. Cyrk w cyrku — czes. 29—30.IX.

**Michałowo** Partyzanci Kowpaka — radz. 27—28.IX. Świat dzikiego zachodu — USA 29—30.IX.

**Mielnik** Niewinna żona — fr. 28.IX.

**Narew** Krótkie wakacje — wł. 28.IX—2.X.

**Nurzec** Pierwsza spokojna noc — wł. 27—28.IX. Robert i jego małpka — czes. 29—30.IX.

B.Z.Graf. Zam. 2269 B-4

 

## Ад родных ніў

### ДЗІКІ

*На узгорку, дзе мой хутар,*
*абшар невялікі.*
*Засадзіў яго я бульбай,*
*абнюхалі дзікі.*
*Абцягнуў я поле дротам,*
*а на дроце банкі.*
*Стаіць ў бульбе страхаў рота,*
*адны Ванькі-ўстанькі.*
*Спярша толькі я смяяўся:*
*вось добра зрабіў!*
*Дзік за плот ісці баяўся,*
*побач бульбу рыў.*
*Праз дзён пару я заходжу,*
*што ж ён нарабіў?*
*Цераз маю агароджу*
*бульбу зрыў, страхі зваліў.*
*Якраз фэст у Новай Волі,*
*еду — і пугач*
*ў маіх руках. Даволі*
*цярпеў няўдач.*
*Аднаму йсці страшнавата,*
*а каго ж узяць?*
*Дзікаў знаю малавата,*
*могуць разарваць.*
*Бяру сына я з сабою,*
*удзень любіць спаць.*
*Кажу:*
*„Пойдзеш ты са мною*
*дзікаў паганяць!“*
*Ляжымо на ўзгорку ціха,*
*хвайнякі стаяць.*
*Страшнавата як бы крыху,*
*ў вёсцы усе спяць.*
*Выняў я пугач, зарадзіў,*
*на траву паклаў,*
*рукой галаву пагладзіў,*
*вельмі чуб стаяў.*
*Ляжымо так да паўночы,*
*мой памочнік спіць.*
*Тут і вырачыў я вочы,*
*у хвайняку трашчыць.*
*Ад хваіны праз палоску*
*дзікі сталі йсці.*
*І не мог я, збіты трошку,*
*пугача знайсці.*
*Зусім блізка авёс клаўся,*
*проста йдуць на нас.*
*Ў руку тут пугач папаўся,*
*і бахнуў у час.*
*Ох і спрытна, каб вы знали,*
*паварот знайшлі,*
*як спартоўцы ў Манрэалі*
*палоскай пайшлі.*
*З той пары ужо штоночы*
*на ўзгорку сяджу*
*і сваю, й суседску бульбу*
*пільна сцеражу.*

**А. Леўшук**
Ціванюкі



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

*Калектыў з Мілейчыц журы конкурсу вылучыла за выступленне.*
*Фота К. Свідэрскага.*

## Жанчыны з Чыжыкаў

У вёсцы Чыжыкі (гміна Гайнаўка) прыгожыя дамы, сельскагаспадарчыя будынкі і панадворкі. У прыдамашніх агародчыках цвітуць кветкі, спеюць яблыкі, грушы і слівы ў садах. Ёсць у гэтай вёсцы свой цэнтр культуры — прасторны клуб прэсы і кніжкі „Рух“. Вёска Чыжыкі даволі вялікая. Яна налічвае 120 гаспадарак. Тутэйшыя сяляне гадуюць з кожным годам усё больш быдла і свіней, будуюць для іх вялікія мураваныя і па-сучаснаму механізаваныя аборы. Падключаюць у іх ваду. Цяпер убачылі мы яшчэ тры новыя фундаменты пад абору. У апошнія гады найлепш аднак развіваецца гадоўля малочных кароў. Зараз многія мясцовыя сяляне прадаюць значную колькасць малака — на 5-6 і больш тысяч злотых кожны месяц.

У гэтай прыгожай вёсцы сяляне жывуць на высокім матэрыяльным узроўні. Многія маюць свае ўласныя трактары, да іх падвесныя сельскагаспадарчыя машыны, а таксама легкавыя машыны. Карыстаюцца тэлевізарамі, халадзільнікамі, пралькамі.

У Чыжыках дзейнічае актыўны 27-асабовы гурток вясковых гаспадыняў (КГВ), які ўжо восем гадоў узначальвае Марыя Койла. За сваю грамадскую дзейнасць старшыня КГВ М. Койла ўзнагароджана сярэбраным значком „Заслужаны для Беласточчыны“. Чыжыкаўскія жанчыны маюць дзве пазычальні кухоннай і настольнай пасуды. Знаходзяцца яны ў Марыі Койла і Марыі Петручук.

Гаспадыні абавязаліся павялічыць жывёлагадоўлю. І выканалі свой намер. Яны дадаткова выгадавалі 96 кормнікаў, 30 дойных кароў і столькі ж штук маладога мяснога быдла. Яны пабялілі вапнай свае хлявы і аборы.

У гэтым годзе Марыя Койла і яшчэ пару тутэйшых жанчын пачалі вырошчваць ранную гародніну пад фальгой, а таксама малавядомую гародніну: ярмуж, сельдэрэй, калярэпы, парэй. Пачалі яны значна больш выкарыстоўваць гэтую гародніну пры падрыхтоўцы розных страў. Восенню яны пасадзяць у сваіх прыдамашніх гародчыках яшчэ больш кусцікаў парэчкі, маліны і руж.

У гэтым годзе члены КГВ праходзілі курс грамадска-палітычных ведаў. Узбагацілі яны свае дамашнія бібліятэкі кніжкамі на сельскагаспадарчыя тэмы, на тэмы аховы здароўя і асабістай гігіены.

Былі тут кулінарныя курсы, якія праходзілі ў мясцовым клубе або ў хатах у паасобных гаспадыняў. На заняткі прыходзілі да іх таксама маладыя жанчыны з суседняй вёскі Навакорніна.

Шмат чаго новага ўводзяць яны ў сваё штодзённае вясковае жыццё. Вялікую дапамогу атрымліваюць жанчыны ад гміннай сельскагаспадарчай службы, якая працуе пад кіраўніцтвам Яна Байко.

**Я. Цялушэцкі**

## З народнай абраднасці. Шкодніцкая магія.




Ссыланне калецтва і смерці з'яўляецца найгоршым і найстрашнейшым відам шкодніцкай магіі. Накіроўваецца непасрэдна на чалавека з той мэтай, каб саслаць на яго трагедыю ў форме цяжкага калецтва, а нават і смерці. Калі ў іншых відах шкодніцкай магіі наношванне няшчасця выплывала часамі з ахвоты забеспячэння сабе дабрабыту, то тут кіраваліся толькі і выключна нянавісцю і ахвотай помсты. І не важна было, ці вынік гэтай магіі адаб'ецца непасрэдна на „ворагу“, але хапіла, што ў яго сям'і будзе няшчасце — нехта з яе членаў стане калекай або памрэ. Найтрагічнейшым аднак з'яўляецца тое, што часта як аб'ект дзеяння выкарыстоўваліся асобы ні ў чым не вінаватыя, асобы, якія яшчэ нават не паспелі прыйсці на свет, паколькі, згодна з перакананнем, найбольш падатная на ўплыў магічнага дзеяння была цяжарная жанчына, а дакладней яе будучы патомак. Яшчэ да нядаўна існаваў такі спосаб, што ў момант, калі цяжарная жанчына пераступае парог хаты, хопіць стукнуць па ім нейкім цяжкім вострым прадметам, прыкладна лапатай або сякерай, і дзіця народзіцца калекай — з карацейшай нагой, безуладнай рукой ці нейкім іншым недахопам. Залежыць гэта ад таго, у якую частку цею, пакідаемага цяжарнай жанчынай, папаў востры прадмет. Наступны спосаб, звязаны з цяжарнай жанчынай, гэта кінуць за ёй каменем, але так, каб папаў ён у цень, пакідаемы яе галавой, і тады, згодна з перакананнем, нованароджанае дзіця будзе неразумным.

Гледзячы на шкодніцкую магію гэтага тыпу з боку таго, што захавалася, назіраецца раздваенне. У пераважнай большасці наступіла выразнае аддзяленне славеснага тэксту ад магічнага дзеяння і бытавання іх як дзвюх асобных форм, з якіх першы страціў сілу і з'яўляецца не чым іншым, як пустым, з адценнем злопажадальнасці, слоўным тэкстам. Захаваўся ён яшчэ па сённяшні дзень у форме праклёнаў, і часта можна пачуць: „Коб ты за сухую голю зачэпіўся“ або „Коб тэбэ зэмля нэ носіла“ ці іншыя. Але гэтыя праклёны не маюць ужо той сілы, што мелі ў спалучэнні з магічным дзеяннем, і не выклікаюць у людзей такога вялікага жаху, як раней, аб чым сведчаць словы: „Говорыті, то нэхай говорыт, але добрэ, што робіті нічого нэ робіла“.

У сувязі з тым, што галоўнымі дапаможнікамі ў спаўненні магічна-шкодніцкага дзеяння лічыліся злыя сілы, а людзей займаючыхся гэтым — запрадаўшымі душу чорту, насылаемая гэтакім дзеяннем на некага смерць не будзе смерцю натуральнай. Магічнае дзеянне з'яўляецца як бы пінком да самагубства. І гэта было найгоршае няшчасце, калі ў сям'і паявіцца самазабойца, а канкрэтна гаворачы, вісельнік, бо такая форма найчасцей паяўлялася. Таму ніколі пры звяртанні пазычанага бэрда нельга было яго перавязваць, што было агульнапрынятай формай заплаты, каноплямі, а толькі і выключна ільном ды найпрыгажэйшым пасмам. Калі лён лічыўся раслінай высакароднай, даваў чалавеку вопратку, харчы, быў лякарствам, напрыклад, у народнай медыцыне пры спальванні рожы, то каноплі, згодна з рознымі бытуючымі расказамі, былі матэрыялам вісельніку на шнурок. І даванне бэрда, перавязанага каноплямі, — гэта тое самае, што падсоўванне гэтай пятлі. Згодна з перакананнем, у той хаце, у якую трапіла так перавязаная бэрда, абавязкова нехта павесіцца. Тады, калі каноплі былі прарочнікам вісельніка, то канапляны шнур, на якім ён павесіўся, прыносіў іншым людзям шчасце. Маем тут прыклад, наколькі вынік шкодніцкай магіі можа спаўняць дапаможніцкую ролю. Але аб гэтым скажам пры магіі дапаможніцкай і народным лячэнні.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**



*Гарадскія замалёўкі. У беластоцкім амфітэатры.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## Гутарка дзядзькі Максіма

### ТАННАЕ ЗОЛАТА

Запрасілі мяне на дажынкі, якія нядаўна адбыліся ў нашай гміне. Пайшоў я на іх, каб паглядзець, як будуць спраўляць свята ўраджаю, бо сваіх дажынак даўно ўжо я не спраўляў. Што за святкаванне ў кампаніі адной, а да таго яшчэ і шлюбнай Палашкі! Удосталь мне яе кампаніі ў будніішнія дні! Ды якія цяпер у гаспадароў могуць быць дажынкі? Усе, як адзін, азіраюцца толькі на машыны і ніхто ўжо ніжэй „Бізона“ не хоча спускацца. Таму і змагаліся мы за гэтыя „Бізоны“, як чэрці за грэшную душу. На сёмы дзень бою мне ўдалося дарвацца, праўда, не да „Бізона“, а ўсяго ледзь да „Вістулі“, але дзякуй богу і за гэта. Якім спосабам і якою цаною — гэта ўжо мая салодкая таямніца. Найважнейшае, што ўдалося. Прыпёр мой пляменнік на СКР-аўскім камбайне і да вечара ўсё збожжа апынулася ўжо ў свіране. Шчасліва, нічога не зламалася, і дождж не надта перашкодзіў, бо ледзь-ледзь пакрапіў, калі мая Палашка абед нам у поле прыцягнула, а мы з маім Валодзькам дружна канчалі другую паўлітроўку.

І як тут было спраўляць гэтыя дажынкі? То ж і парадачнай горсткі жы-

(Працяг на стар. 5)



 

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ!

## Міхась Баканач



Сярод аднавяскоўцаў Міхась Баканач пашану і аўтарытэт здабыў сваёю людскасцю. Яго, як вельмі паважанага чалавека ў Новым Ляўкове (гміна Нараўка), вельмі часта запрашаюць на сямейныя ўрачыстасці, а перш за ўсё на хрысціны і вяселлі. Шмат разоў быў ён кумам і маршалкам (сватам).

Вядомы ён у сваёй вёсцы як чалавек вельмі працавіты. Зрабіў ён вельмі многа, як рэдка хто ў ваколіцы. Усё, што стаіць, што відаць на яго сялібе — гэта тварэнне яго „залатых" рук. Ён сам пабудаваў хату (зрабіў і ўсе вокны і дзверы), хлявы, клуню (стадолу), сілас, майстэрню, усякія там прыбудоўкі. Бо ён і столяр, і цясляр, і муляр. Будаваў драўляныя хаты і гаспадарчыя будынкі людзям, рабіў і робіць дасканалую сталярку, а таксама змураваў для сваіх сыноў прыгожыя дамы па ўсіх правілах гэтага рамяства. А гэтаму рамяству ён нідзе не вучыўся. У пяцідзесятых гадах, калі ў Ляўкове не было электрычнага святла, сам ён пабудаваў ветрак, які малоў збожжа і на хлеб і на асыпку сабе і людзям. Цяпер і ў яго, і ў многіх гаспадароў ёсць млынкі-сьрутоўнікі, якія працуюць пры дапамозе электрычнага току.

Міхась Баканач абазнаны з тэхнікай і дасканала рамантуе ўсе сельскагаспадарчыя машыны. Калі ён быў старшынёй сельскагаспадарчага гуртка, забраў на свой панадворак сельскагаспадарчыя машыны, праверыў іх і адрамантаваў. Нядаўна са сваім шваграм і Паўлам Галубоўскім купілі яны стары малацільны агрэгат, і якраз тады, у нядзельны дзень, калі мы яго наведалі, рамантавалі гэту машыну.

І яшчэ ёсць адна тэхнічная дзялянка, якою ён займаецца. Умела рамантуе электрычныя трохфазавыя рухавікі. Цікава пабываць у яго майстэрні. Чаго там толькі няма! Абсталявана яна рознымі машынамі, інструментамі, прыладамі — складанымі і зусім простымі, якія павінен мець кожны гаспадар. Але так ужо ёсць, што з-за сваёй абыякавасці не маюць многія сяляне ні добрага гэбля, ні свярдзёлка, ні пілкі ці іншай прылады. Тады пазычаюць гэта ў Міхася Баканача. Удзячны яму за тое, што ён не адмаўляецца, калі трэба што паладзіць, асабліва калі звязана гэта з рамесніцтвам.

У размове з Міхасём Баканачам я даведаўся, што сталярства і цяслярства перадалося яму ад бацькі. Бачыў, як гэта ён робіць, пачаў сам прабаваць рабіць і выходзіла даволі добра. „Пагляджу, падумаю, — кажа, — ды раблю. Выходзіць".

Сказаў ён і аб тым, што ў 1972 годзе пайшоў у Беласток на спецыяльны сталярска-цясельскі курс, каб атрымаць дыплом майстра будаўнічай сталяркі. Трэба сказаць і аб тым, што ён нават многіх навучыў гэтаму рамяству. Яго сын, які завецца так як і бацька, Міхасём, таксама вельмі таленавіты. Ён знае сталярку, але найбольш займаецца драўлянымі вырабамі для Цэпэліі. Прадукуе каблукі-шкопты і чарпакі. Апрача гэтага, займаецца мастацтвам, разьбой у дрэве і вырабам байдарак.

Міхась Баканач разам са сваёй сям'ёю многа ўвагі прысвячае сельскагаспадарчай прадукцыі, якая вымагае шмат разумнай працы, каб гаспадарыць па-сучаснаму. Яны спецыялізуюцца ў гадоўлі быдла. Маюць цяпер 16 штук, у тым ліку 7 дойных кароў. Прадаюць дзяржаве шмат мяса і малака.

Баканачы жывуць культурна і заможна. У хаце ёсць усё тое, што гаворыць аб высокім стандарце жыцця.

**Міхась Хмялеўскі**




## НЕПАСЛУХМЯНАЯ

Сям'я Парлінскіх залічалася ў вёсцы да адной з узорных. Дзеці былі паслухмяныя і працавітыя, такія ж, як бацькі.

Але як кажуць, калі дзеці малыя, дык і беды з імі малыя. А калі дзеці вялікія, тады і беды вялікія.

У Парлінскіх паявілася бяда ў сувязі з падрастаючай дачкой Аняй. Пятнаццацігадовая прыгажуня ўжо ўмела какетнічаць, умела падабацца хлопцам, бо і спявала добра, і яшчэ лепш танцавала. У 8 класе стала дрэнна вучыцца, больш не цікавілі кавалеры, вучоба была на апошнім плане.

Аднойчы на музыках пазнаёмілася яна з маладым чалавекам з Беласточчыны (а яна з Радомшчыны), які працаваў там пры электрыфікацыі вёсак. Электрыфікатары, як правіла, на адным месцы доўга не працавалі, перазджалі ўсё ў новыя месцы.

Закаханая Аня спачатку кожны месяц без дазволу бацькоў выязджала да свайго кавалера. Выклікала гэта вялікую трывогу ў хаце. Бацькі ні добрым словам, ні просьбамі, ні гнеўным словам не маглі нічога зрабіць. Дачка стала непаслухмянай, прапускала ўрокі ў школе і ехала да свайго любімага. Пазнала, як кажуць, „божую сілу", і ад хлапца не маглі бацькі яе адарваць. А калі бацькі сталі пагражаць фізічнымі пакараннямі, якіх яна вельмі баялася, у яе стала нараджацца думка, каб пакінуць дом і выехаць да свайго хлопца, з-за якога не бачыла яна свету, вымагчы, каб ён з ёю ажаніўся. З гэтым, праўда, было трохі клопатаў, бо Ані было ўсяго 16 год.

Пасля чарговага прыезду Ані да кавалера, у бацькоў было столькі гневу, што пачалі яны біць дачку. І вось тады Аня дала ім клятву, што ўжо больш ніколі да яго не паедзе. Гэтым пагасіла хатнюю навальніцу, але зрабіла зусім інакш. Аднойчы, калі ўсе моцна спалі, цішочкам уцякла яна з хаты і накіравалася да нарачонага больш як за 100 кіламетраў. Адчувала сябе пачаткова нядрэнна, куды стала горш, калі яна зацяжарыла. Хлопец цяпер пачаў яе гнаць ад сябе, пачаў абзываць па-рознаму, пачаў піць і скандаліць. Зразумела яна тады сваю памылку, але ўжо было позна.

Няшлюбны муж падчас нейкага вялікага п'янства пачаў біць Аню, пачаў здзекавацца над будучай маткай яго дзіцяці. У абароне Ані выступіў гаспадар кватэры. І о гора! Пабіў яго моцна кавалер Ані. Гаспадара забрала хуткая дапамога, а разбойніка забрала міліцыя. Гаспадар праз некалькі дзён вярнуўся, а кавалер Ані быў засуджаны на тры гады зняволення.

— Што рабіць? Куды дзецца? — ставіла сабе пытанне цяжарная дзяўчына. Але свет не без добрых людзей. Прыйшла да Ані старэйшая жанчына (у якой памёр муж, а дзве замужнія дочкі, якія жылі ў адлеглых гарадах, забыліся пра яе існаванне), ды кажа: „Прыходзь, Аня, да мяне, будзем разам жыць, колькі зможам, будзем працаваць на гаспадарцы, будзе што есці і грошы ў нас будуць. Я памагу табе, калі ты народзіш дзіця, будзем разам яго выхоўваць..." І 16-гадовая цяжарная, пакрыўджаная дзяўчына пайшла да гэтай жанчыны. Цяпер работы яна не баялася, а калі нарадзіла дачку, нянькала яе гаспадыня і любіла, як сваю родную ўнучку.

І так прайшоў год, а пасля другі. Аня спадабалася аднаму старэйшаму кавалеру, які быў перадавым гаспадаром вёскі. Пачаў ён хадзіць да Ані і запрапанаваў жаніцьбу. І выйшла яна замуж за добрага, працавітага чалавека. Узялі цывільны шлюб, падрыхтавалі вясельны прыём. На яго Аня запрасіла таксама сваіх бацькоў. Але, калі яны даведаліся, што іх зяць не хоча касцельнага шлюбу, не прыехалі на вяселле. Не прыязджаюць да яе ўжо 8 год.

**Міхась Сваяк**

свайго таварыша і адзін партызан быў паранены. Не спынялася таксама барацьба на праходзячай побач чыгунцы, партызаны тут некалькі разоў падрывалі нямецкія эшалоны, што з жывой сілай ці ўзбраеннем ішлі на ўсходні фронт.

Пасля вайны бернатаўчане вярнуліся на свае сялібы, адбудаваліся, загаспадарылі пусткі і аблогі. Але росквіт пушчанскай вёсачкі трываў гадоў дваццаць, не болей. Амаль уся тутэйшая моладзь рушыла вучыцца і не вярнулася ў сваё роднае сяло. Старэйшыя пачалі здаваць зямлю за пенсію дзяржаве, і цяпер сярод дванаццаці гаспадарак аж шэсць — гэта пенсіянеры. Праўда, улетку з'язджаюцца сюды на адпачынак амаль усе былыя бернатаўчане, сярод якіх настаўнікамі з'яўляюцца Валянціна, Галіна і Юрка Карпюкі, юрыстам Вераніка Карпюк, інжынерам Яўген Харашэўскі, медсястрой Тамара Карпюк і іншыя. Але ніхто з іх не наведваецца на суседняе белавежскае ўрочышча **Галы**, дзе калісьці вадзіліся журавы, дзікія гусі і качкі, не ходзяць у Лядскай пушчы па **Выгалках, Шырокім Алёсе, Гнілым Мосце** і не ўзбіраюцца на **Гострую Гару**. Палеткі ў **Парпілах** ужо апрацоўвае СКР. І пушчанскія зверы сталі тут больш наглыя. Аднаго няўдачлівага паляўнічага паранены дзік загнаў на дрэва і нават пачаў грызці камель, каб дастаць свайго крыўдзіцеля. Штодня з аўса ды агарода бернатаўчане выганяюць чароды дзікоў штук па трыццаць, а алені ды казулі чародамі ў белы дзень на вачах у людзей пасуцца на лужку каля Ябланоўкі.

— Не інакш, як пушча вяртаецца сюды, — кажа ў задуме мой сямідзесяцігадовы размоўца і прыяцель Лука Карпюк.

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



*На вуліцы ў Бярнацкім Мосце.*

(Працяг са стар. 3)

## ТАННАЕ ЗОЛАТА

та не асталося, каб сплесці перапёлку, і дзяўчат не было, каб яе кветкамі ўпрыгожылі. Да святкавання трэба людзей, вясёлай кампаніі. А тут — я, мая Палашка, трактарыст і гэтая „Вістуля". Машына, праўда, адмысловая, аднак — машына, без душы і сумлення. Сваё зробіць, насмуродзіць — і канец. Не перап'е і не заспявае.

О, былі калісьці ў нас дажынкі! Даўно гэта было, яшчэ пакойны мой бацька сам гаспадарыў на сваёй церасапалосіцы. Дзяўчат і маладух нейкіх дваццаць збіралася на апошні дзень жніва. Нават і не вельмі трэба было іх прасіць, бо здаўна ў вёсцы ўсе ведалі, што ў Максіма (я пераняў яго імя) у час дажынак нават музыкі іграюць, а гарэлка кубкамі льецца. Бо ад жнеяў, ад маладых, абавязкова выкупіцца трэба было. Інакш не пагадзіш б. Звязалі б гаспадара пэрэвясламі і дагэтуль цягалі б яго за ногі вакол перапёлкі, што абворваннем яе ў нас называлася, пакуль прытомнасці б не страціў.

Адзін раз мне гэта здарылася. Хацеў я зрабіць бабам наперакор і не падпасціся. І дагэтуль яшчэ нашу шрам на лысай галаве, бо яны не даравалі. Сцягнулі мяне з вышак, дзе я ад іх схаваўся і так зацягнулі, абворвалі маім целам перапёлку, што галава мая толькі на каменях падскаквала. Мой крык і праклёны заглушала іх задушэўная песня:

*Дажалі мы жыта, выгналі воўка,*
*А ў Максіма бедна галоўка.*
*Дажалі мы жыта, выгналі ліса,*
*А ў Максіма галоўка лыса.*

Калі ўдосталь нашумеліся мы ў полі, тады ўсе супольна вярнуліся дамоў драбінястым уквечаным возам. А пазней згодна і дружна абселі стол, выпілі за здароўе гаспадара (каб мая разбітая галава хутчэй зажыла) і гаспадыні, і кумы, і кума, ды за тое, каб праз год яшчэ лепшага ўраджаю дачакацца... і тады пачаліся спевы. У гэтым мастачкай была мая кума Манька.

— *А ў нядзелю п'ю, п'ю* — пачынала яна, а за ёю ўсе іншыя падхоплівалі:

*У панядзелак сплю, сплю...*
*А ва ўторак — снапоў сорак*
*Пшанічанькі жну, жну.*
*У сераду вазіла,*
*У чацвер я малаціла,*
*У пятніцу веяла,*
*А ў суботу мерала,*
*У нядзелю прадала*
*І з панамі прапіла.*
*Слава табе, госпадзі,*
*Што й да дзела давяла...*

Музыка хапаўся за гармонь, адсоўвалі стол у куток і аж сцены трасліся ад абэркаў і полек, а малы Васіль, якога ў нас „казаком" называлі, зараз пускаўся ў прысяды.

Няма цяпер такіх дажынак. І замест уквечанай перапёлкі часта стаяць на палях, асабліва на тых, падпарадкаваных ПГР-ам і СКР-ам, цэлыя астраўкі няскошанага збожжа, бо туды не мог камбайн дайсці, а касой не хацелася, ці не было каму.

Баліць крыху ад гэтага маё старое сэрца, бо маці з дзіцячых год прывучыла нас, што хлеб — святая рэч і грэх вялікі бярэ на сваё сумленне той чалавек, які хаця б адну яго крушынку няўмысна марнуе.

А ў нас? Адвозіў п'яны шафёр жыта ў элеватар. Без мяшкоў, проста ў кузаве, якога дарэчы добра ён не забяспечыў. На павароце закінула прычэпам на слізкай дарозе, борт адляцеў і пакуль вясёлы вадзіцель спахапіўся, палавіна збожжа пайшла ў адхон. А на прыёмным пункце колькі яго нарунецца! А ў полі...

Затое ў прамовах, якія давялося мне выслухаць на нашых гмінных дажынках, у кожным сказе паўтараўся лозунг, што цэнім мы **„кожны колас на вагу золата"**. З гэтага вынікала б, што вельмі таннае ў нас золата.

**Максім Нурэцкі**




*У Беластоку на Новым Месце адна гаспадыня сусім хлебам распальвае ў печы і хваліць, што добра гарыць.*

SHEILA



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ** Заказвалі Валянціна Камарова і Іван Грыгарук з Клейнік.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Шматпаважаны Астрон! Сніцца мне, што мы з мужам ляжым на адным ложку (на самай справе спім асобна) і накрыты замест коўдры вялікім кавалкам матэрыі. З левага боку яна ў некаторых месцах абшыта ватай. Уся матэрыя ў малых дзірачках. Будзь добры, разгадай мой сон. Мне здаецца, што ён вельмі дрэнны. Я жыву ў Гайнаўцы і нядаўна пачала выпісваць „Ніву“.

Вера

Дарагі Астрон! Сніцца мне, што я на забаве. Бавімся ў кругу. Побач гуляюць хлопцы (якіх я ведаю з папярэдняй забавы, так ёсць у сапраўднасці), а таксама сяброўка маёй сястры і яшчэ нейкія дзяўчаты. Хлопцы мне вельмі падабаюцца, асабліва Янэк (так таксама ёсць у жыцці). Спачатку яны не звяртаюць на мяне ўвагі і толькі пазней пачынаюць на мяне глядзець залётна. Не ведаю, як гэта здарылася, што я твар Гжэська ўзяла ў далоні. Мы паглядзелі сабе проста ў вочы. Я адкрыла, што ён вельмі прыгожы, і хацела б, каб ён мяне пацалаваў. Але ён гэтага не зрабіў. Хлопцы гэтыя сняцца мне ўжо трэці раз, ці гэта мае нейкае значэнне?

Ёлька

**Вера!** Вас, або вашага мужа чакае, на жаль, хвароба.

**Ёлька,** твой сон азначае, што ты ўжо дарослая, і ўсё, што табе сніцца, табе не чужое. Добра, што вы не цалаваліся, бо абазначала б гэта, што твае сябры фальшывыя.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, чытаю я ўсе твае парады, але ніколі не думала, што і мне прыдзецца звярнуцца да цябе.

З Алікам пазнаёмілася я яшчэ, калі была ў першым класе ліцэя. Мо і не адразу пакахала я яго. Часта нават сварыліся, на многія справы нашы погляды не згаджаліся. Можа гэта таму, што Алік быў за мяне на чатыры гады старэйшы. Але з часам мінула і гэта і нарадзілася ў нас гарачае каханне. Пачалі мы гаварыць аб супольнай будучыні, не ўяўлялі разлукі. Абяцалі сабе, што калі я закончу школу, а Алік вернецца з войска, мы пажэнімся. І прыйшла гэта чаканая хвіліна. Але аднойчы я даведалася, што Аліка змушае сітуацыя ажаніцца з іншай дзяўчынай, адтуль, дзе ён служыў у войску. Яна цяжарная. Я перажыла страшэнны жах, была блізкая самагубства, да якога, і сама не ведаю, як яшчэ не дайшло. Хіба толькі дзякуючы маме. Але што з таго, што я жыву, калі жыццё маё стала бессэнсоўнае, бесперспектыўнае. Аліка даўно ўжо не бачыла. Маю радасць, маё шчасце забрала тая дзяўчына. Толькі падумаю часам, ці ж сапраўды пагасла ў ім тое каханне, а мо яшчэ дзесьці на дне ў сэрцы тлеецца хоць адна іскарка яго? Мо яшчэ неяк удалося б мне яе раздмухаць і вярнуць каханага? Толькі як?

Расчараваная Люба

Дарагая Люба! На жаль, і я не магу табе даць раду на гэта, бо практычна яе няма. Мо гэта разлука пашкодзіла вашаму каханню. Праз яе каханне часта астывае, або і зусім пагасае. Падкруцілася іншая дзяўчына, спадабалася, яна была бліжэй, чым ты. Вядома, цяжка, але трэба ўзяць сябе ў рукі. Трэба ўмець перанесці цяжкасці, бо за імі скрываюцца радасці жыцця, новыя знаёмствы, новае каханне.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У выніку падзелу спадчыны суд прызнаў дом А. Дом гэты займае Д., якому суд прызнаў ад А. сплаты, абавязваючы яго адначасова, каб на працягу года апарожніў дом. Ад таго часу прайшло ўжо больш двух год, а Д. надалей займае дом, і нічога за яго карыстанне не плаціць, а нават неабходных напраў не робіць. Ці можна ад Д. патрабаваць заплату за карыстанне з дома, а калі так, то за які час і ў якой велічыні? У доме знаходзіцца адна кватэра з двух пакояў і кухні. Ён тлумачыць, што плаціць не патрабуе, бо сам дом будаваў.

АДКАЗ: Калі ў рашэнні суда, якім Д. быў абавязаны пакінуць дом, на працягу года няма забавязання, каб ён плаціў за гэты год за карыстанне з памяшкання, то няма асноў патрабаваць ад яго заплаты за гэты час. Пасля года можна ад яго патрабаваць заплаты за безумоўнае карыстанне з памяшкання да часу, пакуль ён не пакіне дома. Няма пры гэтым ніякага значэння, хто гэты дом будаваў, паколькі ўласнікам дома згодна з рашэннем суда прызнаны А., а ўласнік мае права патрабаваць заплаты за карыстанне з яго рэчаў. Можна патрабаваць заплаты ў велічыні, якая прымяняецца ў данай мясцовасці прыватнымі асобамі, якія аддаюць кватэры ў арэнду.

## Этнаграфічнае акенца



*Хата Васіля Крукоўскага з вёскі Пасынкі.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## Куток практычных ведаў




### ЦІ ЯСЦЕ ВЫ КУКУРУЗУ?

Нашыя бабкі сцвярджалі, што кукурузу трэба варыць вельмі доўга, прынамсі 2-3 гадзіны. Сёння ж існуе іншы погляд: чым даўжэй кукуруза варыцца, тым яна цвярдзейшая. Трэба выбраць маладыя, светлажоўтыя, сярэдняй велічыні качаны, зняць лісцё і адкінуць „бараду“. Палажыць кукурузу ў кіпячую, пасоленую ваду (дадаць крыху цукру) і варыць паўгадзіны. Тады яна будзе мяккая і смачная.

Кукурузу можна таксама пячы і пражыць. На вуліцах Парыжа прадаюць яе пражаную, як каштаны.

Як есці кукурузу? Можна браць вараныя качаны ў руку і, памазаўшы маслам, абгрызаць. Зерне варанай ці спечанай кукурузы можна падаваць:

**З зелянінай.** Зерне з 8-9 качаноў кукурузы падагрэць у 5 дэках масла, пасыпаць соллю і перцам, змяшаць з 2 лыжкамі дробна нарэзанай зялёнай пятрушкі і ўкропу.

**З зялёным гарошкам.** Зваранае зерне змяшаць з такой самай колькасцю варанага зялёнага гарошку, дадаць свежае масла.

**З бешамелевым соусам.** Зерне з 8-9 качаноў кукурузы вымяшаць з густым бешамелевым соусам, успульхненым пенай з 2 бялкоў, пасыпаць зверху вострым сырам, сцертым на тарцы, і запячы на працягу 15 мінут у духоўцы. (На 1,5 шклянкі бешамелевага соусу бярэм лыжку мукі, столькі ж масла ці маргарыну, шклянку малака ці смятаны, 2 яечкі, соль, перац, крыху мускатнага арэха).

**Як салату.** Да зваранага зерня кукурузы дадаць кавалачкі шынкі ці печанага або варанага курынага мяса, змяшаць з маянезам, упрыгожыць чвэрткамі памідораў і лісткамі салаты.

**Гаспадыня**

Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву“?




Мацвееў аддаў загад затрымаць невядомага на Курскім вакзале. Калі аператыўныя работнікі прапанавалі яму ісці ў службовае памяшканне, ён не супраціўляўся і ні аб чым не пытаўся, а неяк адразу абмяк. Затрыманы назваў сябе Шаркіным. Супакоіўшыся, расказваў свабодна, выкладваў падрабязнасці. Высветлілася, што ў Салтыкоўскай ужо больш чым месяц арудуюць тры агенты германскай разведкі. Пад выглядам камандзіраваных яны размясціліся ў доме адзінокай жанчыны, вядуць назіранне за чыгункай і сабраную інфармацыю перадаюць па рацыі сваім гаспадарам. Шаркін — радыст. Рацыю захоўвае ў хляве, у двары. Другі агент — Дубавой, вядзе назіранне за чыгункай па начах, а днём адсыпаецца. Казімір — старшы групы. Ён выконваў нейкае асобае заданне. Мінулай ноччу вярнуўся з Масквы, асабіста звязаўся па рацыі з гаспадарамі, далажыў, што заданне выканана паспяхова, і, сабраўшы свае рэчы, уцёк.

— Куды ўцёк?

Радыст паціснуў плячыма:

— Мне ён сказаў, што я застаюся старшым, і мы павінны працаваць тут да асобнага загаду — і ўсё. Лішніх пытанняў не любіць. Чалавек ён страшны і жорсткі, западозрыць — заб'е.

З акна я бачыў, як ён пралез у дзірку ў агароджы каля хлява, а куды пайшоў далей — не бачыў.

„Уцёк, вышмыгнуў, нягоднік, — падумаў Мацвееў. — Ну што ж, гэта і лепш...“

Шаркін пачаў расказваць пра сябе, пра варшаўскую разведшколу, дзе ён вучыўся... Мацвееў слухаў, і ў яго нарадзілася думка даць ход гэтай новай лініі гульні.

### НЕЧАКАНЫЯ ЎСКЛАДНЕННІ

Шаркіна вызвалілі. Заданні контрразведкі ён узяўся выконваць ахвотна. Дубавой, не ведаючы, працягваў збіраць даныя аб перавозках, хоць днём і ноччу не пераставаў дрыжэць, баяўся трапіць у рукі чэкістаў. Шпіён не ведаў, што іменна яны, каб пазбегнуць непатрэбных ускладненняў гульні, якая пачалася, ахоўваюць яго ад выпадковасцей. Сувязь з германскай разведкай знаходзілася ў руках Шаркіна, „работа“ Дубавога не была небяспечнай. Варожага агента на некаторы час можна было пакінуць на волі. Немцам цяпер ішла дэзінфармацыя, падрыхтаваная контрразведкай. Гаспадары работай Шаркіна і Дубавога былі задаволены. З разведоргана паступалі ўдзячныя тэлеграмы. Калі ж Шаркін намякнуў, што ў іх заканчваюцца прадукты і „садзяцца“ батарэі, ва ўмоўленае месца пад Масквой з самалёта было скінута ўсё неабходнае: летняе форменнае абмундзіраванне, кансервы, канцэнтраты, грошы і батарэі. З разведоргана некалькі разоў пыталіся: якая абстаноўка ў доме, ці не назіраюць за ім? Прычым ускладнілі такія дэталі, што стала зразумела: Казімір удала перайшоў лінію фронту.

### ДРУГАЯ ГУЛЬНЯ

Капітан Мацвееў меркаваў, што фашысцкія разведчыкі цяпер і да Нікольскага будуць адносіцца з давер'ем. У складанай ваеннай абстаноўцы вясны 1942 года, калі гітлераўцы рыхтавалі наступленне і, вядома, мелі патрэбу ў інфармацыі аб задумах савецкага камандавання, германская разведка павінна была ўстанавіць з „Мацвеем“ больш цесную сувязь. Адкрываліся цікавыя аператыўныя магчымасці, але справа нечакана сур'ёзна ўскладнілася.

У чэрвені Нікольскі выязджаў на фронт. Ужо на зваротным шляху аўтамашына, на якой ён ехаў, трапіла пад бамбёжку. Асколак раніў нагу, і маёр трапіў у шпіталь. Некалькі дзён знаходзіўся ў цяжкім стане. У гарачцы трызніў, стагнаў, узнімаў батальён у атаку, прасіў паказаць яго сына, дапытваў Казіміра, Яніну. У гэтыя дні Мацвееў амаль не выходзіў з палаты хворага. Ён дастаўляў лякарствы, запрашаў на кансультацыю вопытных спецыялістаў.

Нішто так не зближае людзей, як

# ТРЫБУНА чытачоў

## Аб „НІВЕ"

Будучы ў Луцэ і Тарнопалі (гміна Нараўка), я сустрэўся з чытачамі „Нівы". Разгарнулася цікавая дыскусія аб нашым тыднёвіку. Не на ўсе пытанні і прапановы чытачоў я мог дакладна адказаць. І думаю, што некаторыя праблемы, якія ставяць чытачы, варта разгледзець глыбей.

Чытачы мараць, каб наша „Ніва" мела лепшую паперу і была каляровая. Каб выходзіла два разы ў тыдзень, прыкладна, у сераду і ў нядзелю. Можна было б тады змяшчаць больш цікавых палітычных інфармацый, а таксама спартыўных. Жыхары вёсак чакаюць цікавейшых матэрыялаў па сельскай гаспадарцы.

**А. З.**

**Ад рэдакцыі:** Дзякуем чытачам за ўвагі. Некаторыя трэба прыняць. Адносна дзвюх першых прапаноў, справа пакуль немагчымая для вырашэння.




### Сустрэча

*Бачу, хтосьці ідзе кудлаты,*
*Гэта ж Віценька ідзе.*
*У руках пустая торба,*
*Ён у вёску так мяце.*

*На пасадзе сам нядрэннай,*
*Інжынер'ю вывучаў.*
*І заплата немалая,*
*Бо шэсць тысяч даставаў.*

*Я тут з ім разгаварыўся:*
*— Дзе так раненька ідзеш?*
*— Хачу вось адведаць вёску,*
*Паглядзець, як цесць жыве.*

*— Лепш прыехалі б улетку*
*Жыта з поля паўбіраць.*
*Цесць нядужы, хвараваты,*
*Цяжка ў полі ваяваць.*

*— Не прыеду я улетку,*
*Ў кожнага свая бяда:*
*Мяне летам кліча мора,*
*Яму верны я здаўна.*

*А цяпер жа, бачыш, Коля,*
*Цесць зарэзаў парсюка.*
*Яны ж, ведаеш, старыя,*
*Самі яго не з'ядзяць.*

*Я падумаў: дзе твой гонар,*
*Вучоная галава?*
*Як не сорам табе браці*
*Мяса ў цесця з шапліка!*

**М. Лук'янюк**

агульнасць поглядаў, сумесная барацьба. Усё гэта было ў камуністаў Мацвеева і Нікольскага. Яны сталі сябрамі.

У шпіталі маёр праляжаў больш чым два месяцы. Бяздзейнасць прыгнятала яго, на душы было трывожна: вораг наступаў на Каўказ і рваўся да Сталінграда. Ды і думкі пра сям'ю не пакідалі.

Нарэшце, урачы выпісалі Нікольскага, абавязаўшы далечвацца дома. Але хіба мог ён ляжаць у такі час! Забег на мінуту дадому, каб даведацца аб навінах, але Яніны на месцы не было, і ён адразу пайшоў на службу. Не паспеў пачаць работу, як яго выклікаў генерал.

— Як сябе адчуваеце? — пацікавіўся ён.

— Выдатна, таварыш генерал.

Генерал уважліва паглядзеў на Нікольскага.

— Атрымаеце прадпісанне і заўтра паедзеце ў распараджэнне камандуючага Данскім фронтам. З абстаноўкай і задачамі вас азнаёмяць...

Вечарам Нікольскі некалькі разоў званіў Мацвееву, але не застаў. Позна ноччу вырашыў зайсці сам у асобы аддзел. Дзяжурны па аддзелу сказаў, што Мацвееў выбыў у працяглую камандзіроўку.

*(Працяг будзе)*

## Ці так павінна быць?

Гайнаўка ляжыць на турыстычным шляху ў Белавежу. І як на такі горад, мала тут гастранамічных пунктаў. Да гадзіны 11-ай у Гайнаўцы можаце паснедаць толькі ў адным месцы — у самаабслуговым бары на вул. Бучка. Але як снедаць, калі ад самага рання ў бар цягнуцца аматары піва. Усе столікі пазаймаюць гэтыя пастаянныя госці, а некаторыя і дрэмлюць на сталах. На такіх сталах і вакол іх непарадак і бруд. Ці так павінна быць?

Даўней гэты бар называўся „Ядладайняй" і было лепш — чысцей і прыемней. Відаць, што кіраўніцтва ВСС „Сполэм" у Гайнаўцы не дбае аб добрай славе сваіх установ. Прыгадзілася б Гайнаўцы больш месц, дзе б галодны мог паесці.

**Я-ша**

## Веласіпедам праз пушчу

Дарога з Белавежы ў Нараўку праз Янова амаль 20 кіламетраў бяжыць праз Белавежскую пушчу. Прыемна ехаць па ёй цёплым сонечным днём. Векавыя дрэвы горда глядзяць на цябе. Чыстае, свежае паветра пахне, маняць араматам кветкі і звіняць песні птушак пушчы.

Хачу сказаць аднак, што па гэтай дарозе часта цяжка праехаць нават веласіпедам. Толькі некалькі кіламетраў у пачатку і з канца — дарога добрая. У самой пушчы дажджы наносяць многа балота, у лужах стаіць вада. Трэба пакідаць дарогу і лесам мінаць непраезджыя месцы. Гэтая дарога можа стацца цікавай турыстычнай трасай, і добра было б ужо цяпер падсыпаць яе гравіем. Асабліва трэба пазасыпаць калдобіны, паставіць дарожныя знакі і знакі, забараняючыя ехаць сюдою аўтамашынам.

**Мікалай Няплоха**

## Дзесятак вёсак без аўтобуса

Дасканалая жвіровая дарога пачынаецца ад вёскі Даратынка і ідзе праз Качалы—Янова—Гародчына да Кленік і тут утыкаецца ў шашу Бельск—Нараў. Дарога гэта была зроблена даўно, а апошні яе адрэзак закончылі вясной гэтага года. Дарога добрая, а аўтобуса няма.

І вёскі Качалы, Янова, Градочна, Гародчына, Ляхі, Козлікі і іншыя да аўтобуса вымушаны маршыраваць не менш, як па 7-8 км.

Жвіроўка будавалася пры дапамозе грамадскай працы жыхароў усіх гэтых вёсак. І яны цяпер чакаюць, маюць надзею, просяць даць на гэтую дарогу хоць адзін курс з тых, якія штодзённа пралятаюць па шашы Бельск — Нараў.

**Васіль Пучко**
Янова

## Сяброўская гутарка

Андрэй Маскалевіч — былы дырэктар пачатковай школы ў Спічках ніколі не сядзіць без працы, хоць многа гадоў ён ужо на пенсіі. Любіць сесці на веласіпед і паехаць на рэчку, рыбу павудзіць. Ездзіць таксама па вёсках і вядзе гутаркі з людзьмі.

Нядаўна заехаў на спічкоўскую вуліцу. Каля будынка школы прывітаўся са сваімі былымі вучнямі. Усе яны цяпер ужо закончылі сярэднія, а нават вышэйшыя школы. Павялася сяброўская гутарка аб курэнні папяросаў і алкагалізме. Усведамляў маладых, што папяросы і гарэлка гэта атрута. З зацікаўленнем слухалі яго. Потым гаварылі самі і прызналі рацыю кіраўніку. На канец падзякавалі мы за сардэчную размову.

**Васіль Асеннік**

## Грамадскі пачын

Вёска Гусакі знаходзіцца ў Бельскай гміне. Моладзі тут нямнога, але існуе клуб ужо многа гадоў. І трэба сказаць, што ўсе дбаюць, каб у ім быў парадак, а таксама вакол клуба на двары. Дзяўчаты дапамагаюць клубовай.

Нядаўна ў Гусаках адбыўся грамадскі пачын. Працаваць выйшла ўся моладзь вёскі Гусакі. Працавалі ў клубе і каля клуба. Дзяўчаты малявалі жалезную браму, а хлопцы рабілі падмурак. Грашыма дапамагло прадпрыемства „Рух" у Бельску. Прыгажэй стала вакол. І ўсе рады, што зрабілі карысную работу.

**Дубінка**

## Спартыўныя дасягненні СКР у Орлі

Дырэктарам СКР у Орлі з'яўляецца Расціслаў Анацэвіч. Ужо два гады, як яго рабочы калектыў можа хваліцца таксама спартыўнымі дасягненнямі. У мінулым годзе на І ваяводскіх гульнях сельскагаспадарчых гурткоў Беластоцкага ваяводства, якія разыгрываліся ў Супраслі, СКР з Орлі выставіў скромную 14-асабовую каманду, але яна ў агульнай пунктацыі заняла 4 месца. Індывідуальна заваявала тады Орля адно першае, адно другое і тры трэціх месцы. Такія вынікі мабілізавалі людзей.

У гэтым годзе на ваяводскую спартакіяду ў Супрасль прыехала 45-асабовая каманда з Орлі, у тым ліку 18 жанчын. Іяланта Гаворка з Орлі заваявала першыя месцы ў бегу на 100 і 600 м і другое месца ў скоку ў вышыню. У скаканні ў даль другая была Барбара Сурвіцкая. Таксама на другіх месцах апынуліся Юрка Пасечук на 1500 м і Станіслаў Каліцкі ў скоку ў даль. У валейболе мужчыны заваявалі першае месца. У агульным выніку зноў чацвертае месца. Але будучыня наперадзе.

**(гай)**

**Падарожжа поездам**

## На станцыі ў Бельску

Ехаў я поездам з Беластока ў Гайнаўку, і ў Бельску трэба было чакаць больш гадзіны наступнага поезда. Пагода была ў той дзень харошая, цёплая, захацелася мне піць. На станцыі ў Бельску ёсць буфет, і можна там купіць напіткі, з чаго я і скарыстаўся. Піў газіраваную ваду ў спажывецкай зале і разглядаўся вакол. Хачу сказаць, што такіх брудаў, як у буфеце на станцыі ў Бельску я даўно не бачыў.

Не вытрымаў, падышоў да буфетчыцы сказаць аб гэтым, а яна мне ў адказ, што за бруды вінаваты самі пасажыры. Часткова яно так, але ці ж пасажырам чысціць сцены, паталок і лямпы, у абажурах якіх ляжаць горбы здохлых мух, якіх ніхто не вымаў адтуль ад ранняй вясны?!

Буфет на станцыі Бельск належыць да ВСС, аддзела ў Бельску, да якога і звяртаюся з сардэчнай просьбай: давядзіце гэты буфет да сякога-такога парадку, каб можна там было паесці і напіцца без агіды!

## На станцыі ў Гайнаўцы

У пачакальні Гайнаўскай станцыі ПКП вісіць многа розных аб'яў. Яны былі павешаны з думкай памагчы пасажырам. Між іншым, вісіць аб'ява, у рамцы, пад шклом, якая інфармуе, куды пасажыр павінен кінуцца, калі здарыцца пакража, ці нейкі іншы хуліганскі ўчынак. У аб'яве напісана, што трэба хуценька звярнуцца да бліжэйшага пастарунка МО, які змяшчаецца на вуліцы Варшаўскай з нумарам 7.

І цікава, якую дапамогу атрымае пасажыр, які захоча з гэтай аб'явы скарыстацца? Гэты камісарыят МО ўжо некалькі добрых гадоў знаходзіцца ў новым памяшканні на вуліцы Вызвалення. Змяніўся і нумар тэлефона міліцыі, бо ў Гайнаўцы была пабудавана аўтаматычная цэнтраля.

Мяне цікавіць, чаму не бачаць гэтых аб'яў рэвізоры дырэкцыі ПКП, якія па некалькі разоў у год кантралююць станцыю Гайнаўка. А найлепш было б, каб не чакаючы кантралёраў, сам начальнік станцыі закрунуўся каля гэтай справы.

**Вірскі**




**Васіль Асеннік.** Фактычна, некаторыя інфармацыі ўстарэлі. Адносна „Камінара" — вырашылі мы нейкі час не ўздымаць гэтых спраў за выключэннем, калі матэрыял будзе моцна абгрунтаваны.

**Аўтар „заяў".** Вашы заявы становяцца назойлівымі. Адносна адрасоў розных міністэрстваў — не будзем падаваць. У выпадку сапраўды важнай справы хопіць назвы. Што датычыць прапанаваных вамі загалоўкаў для фільмаў кінастудыі „Беларусьфільм" напішыце ім самі.

**Уладзіслаў Дваракоўскі.** Дамо ў „Парнасіку" „Сын у водпуск прыехаў".

**Дубінка.** „Як падзеліш вернасць" надрукуем.

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

**Да фельетона „ЧОРТАВА ЛОГАВА", „Ніва" № 21/1108 ад 22 мая 1977 года і артыкула „КЕПСКІ ПРЫКЛАД", „Ніва" № 28/1115 ад 10 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: PAŃSTWOWE GOSPODARSTWO ROLNE W BIELSKU PODLASKIM.**

Państwowe Gospodarstwo Rolne w Bielsku Podlaskim w odpowiedzi na zamieszczone publikacje prasowe informuje:

1) Felieton pt. „Diabelska droga" z 21/1108 numeru tygodnika „Niwa" potwierdza rzeczywisty fakt istnienia złego stanu drogi przebiegającej obok obory ze wsi Szostakowo do szosy z Hajnówki do Bielska Podlaskiego. Droga ta nie jest własnością tutejszego Przedsiębiorstwa, a korzystają z niej głównie rolnicy ze wsi Szostakowo oraz inni posiadający tu swoje grunta orne i użytki zielone. Niezależnie od współodpowiedzialności za stan tej drogi również przez innych jej użytkowników, PGR w Bielsku Podlaskim w lipcu utwardził nieprzejezdne miejsca na tej drodze przy pomocy żwiru oraz wykopał po obu stronach drogi rowy odwadniające.

Należy też nadmienić, że tutejsze Przedsiębiorstwo każdego roku przyjmuje do zagospodarowania około 1000 ha gruntów Państwowego Funduszu Ziemi, stąd też istnieją ogromne potrzeby w zakresie naprawy dróg i rekultywacji gruntów, których nie mamy możliwości zaspokoić na bieżąco.

2) Publikacja prasowa „Kiepski przykład" z 28/1115 numeru tygodnika „Niwy" nie odzwierciedla faktycznego stanu tej sprawy. Pryzma z kiszonką na lotnisku była sporządzona z trzeciego pokosu w ubiegłym roku. W okresie jesieni były pobrane próby do analizy przez WZIR oraz tutejsze Przedsiębiorstwo i Stacja Chemiczno-Rolnicza oceniła kiszonkę pozytywnie. Około 300 ton kiszonki skarmiono w okresie zimowym, pozostała ilość stanowi niezbędną rezerwę. Oczywiście przy tej metodzie zakiszania muszą powstawać ubytki w warstwie powierzchniowej nawet około 20%. W bieżącym roku obok tej pryzmy również zakiszono część pierwszego pokosu traw. Przy silnym ugniataniu, co jest warunkiem udania się kiszonki, wypłynęły soki których zapach dla osób nie znających się na sporządzaniu kiszonek sugeruje, że pryzmy uległy zepsuciu.

Lokalizacja pryzm w odległości 100 m od drogi podyktowana była tym, że teren ten jest niezmeliorowany i w okresie jesiennym i wiosennym nie można by było wywozić kiszonkę na skarmianie.

W tym roku również dokonano analizy kiszonki i stwierdzono jej przydatność do skarmiania, co również można stwierdzić organoleptycznie bezpośrednio na pryzmie.

Podnoszony fakt wywozu zgniłej warstwy pryzmy po wybraniu kiszonki miał miejsce, ponieważ część powierzchniowa przy konserwacji w pryzmie stanowi warstwę ochronną. Próby okrycia folią pryzm kiszonkowych nie zdały egzaminu, ponieważ folia była systematycznie kradziona.

Należy również nadmienić, że w rejonie Bielska Podlaskiego w ostatnich trzech latach przejęliśmy 3000 ha gruntów PFZ, nie otrzymując żadnych inwestycji o charakterze produkcyjnym, co pozwoliłoby na lepsze wykorzystanie tych gruntów. Wymieniony areał użytków obok Bielska Podlaskiego tj. byłe lotnisko został zagospodarowany jako użytek zielony, z którego w 1976 roku zebrano cztery pokosy traw a w bieżącym roku mimo niesprzyjających warunków dwa pokosy z pełnym już odrostem trzeciego pokosu do skoszenia.

**Zastępca Dyrektora**
**mgr inż. Jan Bielski**

**Да заметкі „З КРЫВЯЦІЧ", „Ніва" № 28/1115 ад 10 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W ORLI.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Z Krywiatycz" Urząd Gminy w Orli informuje, że faktycznie droga ze wsi Krywiatycze w kierunku Czarnego Lasu wymaga remontu. Jednak ze względu na brak wykonawcy Urząd Gminy nie ma możliwości przeprowadzenia takowego remontu we własnym zakresie. Może on być przeprowadzony jedynie w ramach czynu społecznego mieszkańców wsi i na to Urząd Gminy zapewni niezbędne środki finansowe.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Włodzimierz Jakimowicz**
**inspektor d/s Handlu, Usług i Gospodarki Komunalnej**



„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# Кватэрная сімфонія

— Ура! Ура! Ура! — яшчэ ў парозе пачаў я, падаючы жонцы ордэр і ключы ад новай кватэры.

— Ура! — ускліквула жонка і кінулася цалаваць мяне. Мы абое закружыліся ў танцы.

Праз тыдзень мы пераехалі ў новую кватэру. Праўда, спачатку было холадна. Ведама, неабжытая кватэра. Заклеілі ў вокнах шчыліны, і троху пацяплела. Прывезлі новую мэблю, кватэра наша стала вельмі ўтульнай. Большай радасці нам і не трэба...

Ужо і лета прыйшло. Усё зазелянела, а на лузе застракацелі рознымі колерамі кветкі. У наваколлі разносіўся мядовы іх водыр. Пройдзеш ад дома якіх сто метраў — і апынешся ў сасновым ляску. Усё спрыяе добраму настрою. Жывём сабе — не тужым.

Ды раптам... Пацёк у кухні кран. „Кап-кап-кап!" — цурчыць-вызваньвае тоненькая мелодыя. Неўзабаве запішчалі-заспявалі трубы, быццам спявачка выконвае песню без слоў. Хоць і не інструмент духавы, а звычайныя водаправодныя трубы, ды часам такую мелодыю завядуць, што нават на скрыпку падобна. Потым да не далучаюцца гукі накшталт жалейкі. А то нечакана пачуецца пошчак барабана: бум-бом, бум-бом!

Кран трохі наладзілі, але трубы спявалі па-ранейшаму. Да гэтых гукаў далучыліся іншыя: пачалі рассыхацца і спяваць дзверы, падлога ходзіць ходырам. Крок не ступіш, каб не зарыпела.

У ваннай у некаторых мясцінах абвалілася кафля. А ўчора ледзьве нас не затапіла, а мы ледзьве не затапілі суседзяў знізу.

Яшчэ з раніцы надвор'е было пахмурнае, а ўдзень разгулялася навальніца. Праз шчыліны ў аконных рамах пачала ліцца вада, сцякаючы на падлогу. Жонка не паспявала падстаўляць міскі, каструлі. Усё роўна на падлогу налілося столькі вады, што яна працякла да суседзяў уніз. Праз якую гадзіну і мы заўважылі ў сябе на століі рудыя плямы.

— Хай на іх ліха, на тых майстроў, што будавалі наш дом, — у роспачы ўскліквула жонка. — Навошта браў ордэр на гэтую кватэру?!

— Хай на іх ліха! — абурана паўтарыў і я. — Толькі ж справа не ў ордэры...

Мы ўжо былі гатовы з жонкай пасварыцца. Але тут пачуўся нечаканы званок. Не паспеў я адчыніць дзверы, як у хату ўваліўся жончын брат-будаўнік.

— Здароў, сястра! Даўно ў вас не быў... Ну, як жывяцё, задаволеныя новай кватэрай? Дзякуйце мне хутчэй ды стаўце бутэльку на стол... гэта ж мая брыгада дом ваш будавала!

Лепш бы ён не казаў гэтых апошніх слоў: жонка, мая ціхая, рахманая жонка, раптам схапіла венік і ваяўніча пасунулася ў бок госця... Я яе не ўтрымліваў.

**Алена Мімрык**

# НІЎКА

LIFT

### СТОРАЖ

На будаўнічай пляцоўцы майстар наказвае старажу:

— Глядзіце, дзед, не спіце ноччу, а то вас разам з будаўнічымі матэрыяламі ўкрадуць!

— Не, не ўкрадуць, — адказвае стораж. — Калі я лягаю спаць, дык старожку замыкаю з сярэдзіны!

### РАЗГНЕВАЎСЯ

У аднаго задрыпанца загарэлася хата. Кінуліся людзі на пажар. Пабеглі і дзеці. А ў таго задрыпанца таксама быў малыш. Як убачыў ён, што на іх панадворак дзетвара збеглася, разгневаўся ды й кажа:

— Чаго пазбягаліся! Не ваша ж хата гарыць!

### ЖОНКА ВЕДАЕ

Пасля выплаты жонкі ўбачылі сваіх мужоў каля карчмы „Бабскія слёзы".

— Парфен, ты скачы ў карчы, а я прыму агонь на сябе.

— Прападзеш, Кастусь, ні за што.

— Дзіўны ты, тваёй Сонькі я не баюся, а мая ведае, што я п'ю не за сваё.

## МІНІВЕРШЫ

### ЦЭГЛА І ЯЙКА

На будоўлі ў час снядання
Муляр Клім на рыштаванні
Спрабаваў разбіць яечка.
Як ні стукне аб цагліну —
З той цагліны —
Палавіны
Разляцяцца на бакі.
— Ах, вы, — кажа, —
слабакі!
Хоць не лупленае еш,
Бо ўсю цэглу пераб'еш!

**Міхась Скрыпка**

...І яма гара — уздыхнула казяўка ў яме.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Мэр горада часта блытаў свае грошы з чужымі і запускаў руку ў муніцыпальную касу. Нечаканая рэвізія выявіла недахоп у шаснаццаць тысяч долараў. На пытанне рэвізора, што ён можа сказаць у сваё апраўданне, мэр адказаў:

— Ну што я скажу... Вельмі, ведаеце, цяжка з гэтымі грашыма... Яны так падобны...

*

Сакратар уваходзіць у кабінет шэфа.

— Мсье, адзін з вашых супрацоўнікаў хоча пагаварыць з вамі аб надбаўцы.

— Скажыце, што мяне няма.

— Немагчыма, гэты чалавек дакладна ведае, што вы на месцы.

— Хто ж ён?

— Гэта я, мсье.

*

Адзін габравец другому:

— Пазыч цыгарэту!

— У мяне ўсе кончыліся.

— Ну добра, я закуру сваю, але ты мне яе потым вернеш.

## ГУМАР З

### ДЗЕ ВЯЛІКАЯ ЛЫЖКА?

— Сынок, схадзі натаўчы проса на кашу!

— Ох, мама, ногі вельмі баляць!

— Сынок, ідзі есці кашу!

— А дзе ж, мама, мая вялікая лыжка?

— *Што гэта, вынік землетрасення?*

— *Не, учора суседзі над намі спраўлялі вяселле.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Хрысціны і Варвары Нічыпарук, Альжбеты Цехановіцкай, Ольгі Рагачэўскай з Гарадка, Галіны Нічыпарук з Зарэчан, Гені Сайко з Лукі, Лены Зялінскай, Элі Максімюк з Новага Ляўкова, Галены Кухарскай з Быстрых, Ірэны Несцярук з Дубіч Царкоўных, Марыі Іванюк, Анны Бакун, Мар'ёлі Петручук, Ніны Паўлоўскай, Ірэны Дзяржынскай, Веслава Мартынюка, Генрыка Кавальчыка з Беластока, Ніны Іванюк з Жыўкова, Басі з Лапухоўкі, Алі і Ніны з Курашава і Мар'яны Пякарскай, змяшчаем песню*

## Kolorowe jarmarki

**słowa: Ryszard Ulicki**
**muzyka i wykonanie: Janusz Laskowski**

Kiedy patrzę hen za siebie
W tamte lata co minęły
Czasem myślę co przegrałem
Ile diabli wzięli
Co straciłem z własnej woli
Ile przeciw sobie
Co wyliczę to wyliczę
Ale zawsze wtedy powiem
Że najbardziej mi żal...

Kolorowych jarmarków
Blaszanych zegarków
Pierzastych kogucików
Baloników na druciku
Motyli drewnianych
Koników bujanych
Cukrowej waty
Z piernika chaty

Gdy w dzieciństwa wracam strony
Dobre chwile przypominam
Mego miasta słyszę dzwony
Czy ktoś czas zatrzymał?
I gdy pytam cicho siebie
Czego żal dziś Tobie?
Co wyliczę to wyliczę
Ale zawsze wtedy powiem
Że najbardziej mi żal...

# Курёзы

### ЗАНАДТА ЛЯНІВЫЯ

Дзесяць гадоў працягваўся эксперымент па ўкараненню ў Парыжы двухпавярховых аўтобусаў, якімі так славіцца Лондан. Аднак праект не ўдаўся: парыжская адміністрацыя прыйшла да вываду, што жыхары французскай сталіцы занадта лянівыя, каб падымацца па лесвіцы на другі паверх. 25 аўтобусаў-няўдачнікаў былі распрададзены з малатка.

### СУЧАСНЫЯ МІДАСЫ

Грэчаская легенда гаворыць, што цар Фракіі Мідас быў адораны богам найвялікшай здольнасцю: да чаго б не дакрануўся цар, усё ператваралася ў золата.

Легенда ёсць легенда. І не варта было б аб гэтым успамінаць, каб не паяўляліся на свет сучасныя мідасы, адораныя няўмольнай прагай да нажывы. Гамбургскія мясагандляры, напрыклад, „пазалацілі" звычайную каніну. Толькі дакрануліся яны пяром да цэннікаў, і каніна ператварылася ў першагатунковую гавядзіну. Пакуль разабраліся, што да чаго, гамбургскія мідасы паспелі прадаць 15 тон „конскай гавядзіны".

### ВУШЫ

У вядомага венскага коміка Бэкмана былі надзвычай вялікія вушы. Адзін журналіст нахабна пажартаваў з гэтага.

— Безумоўна, — мірна згадзіўся Бэкман, — мае вушы для чалавека сапраўды вялікія. Але ж вы не будзеце пярэчыць, што вашы вушы занадта малыя для асла.

## Між нам і

Паспех — людзям на смех! Спыняйся! Інакш пасмешыць хто-небудзь іншы.